Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не зяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 11 (24). Вільня, Серада, 10-га лютага 1926 г. Год II.

**У гэтым нумары 8 страніц.**

## „Амністыя“ панскім кішэням.

Бадай ні ў чым ня выявілася гэтак ярка здрада працоўных панамі „казённымі сацыялістамі“—пэпээсамі, як у справе „маёнткова-га“ падатку. Дзеля віду галосячы аб *захаваньні сацыяльных здабычаў працоўных* (8-гадзінны рабочы дзень і інш.), паны пэпээсы, зрабіўшы хаўрус з панамі абшарнікамі і фабрыкантамі, згаджаюцца за гэта добра *заплаціць* польскай буржуазіі — з *кішані працоўнага народу*!

Справа вось у чым. Яшчэ ў пачатку „санацыі“ сьвятое памяці Уладыслава Грабскага, зруйнаваўшага ўшчэнт перад усім нашу многапакутную вёску, урад абвясьціў, што на ратаваньне Айчызны ён возьме ад валадаючых клясаў з іх маемасьці ажно міліярд злотых—у пастаці „маёнтковага“ падатку. Здавалася-бы, думка гэтая—зусім справядлівая: тыя, каму служыць уся польская дзяржаўная арганізацыя, павінны-ж яе і ўтрымаць. Але на дзеле выйшла нешта зусім непадобнае.

На дзеле пад паняцьце „валадаючых“ клясаў падвялі ўсіх, чыю маемасьць ацанілі на 3,000 злотых. Ды цанілі, ведама, ня самыя „ўласьнікі“, а скарбовая ўлада, і цаніла так „шчодра“, што людзі зусім мала-можныя аказаліся „заможнымі“, а магнаты-абшарнікі—чыста „зьбяднелі“. Але мала гэтага: пры спагоне „маёнтковага“ падатку грошы поўнасьцяй, а часам і ўдвая больш, чым выпадала, пабралі якраз з гэных неўспадзеўкі „разбагацеўшых“ дробных уласьнікаў, а затое *вялікія ўласьнікі заплацілі менш за траціну таго, што ад іх выпадала*!

Усе гэтыя даныя мы паўтараем са слоў дэпутата Лыпацэвіча (з групы пана Тугутта), надрукаваных у польскай газэце „Kurjer Poranny“.

Вось-жа з гэтае прычыны, замест праектаванага міліярду, у працягу паўтраці году скарб сабраў „маёнтковага“ падатку крыху больш за чверць праектаванае сумы.... I вось цяпер панска-пэпээсаўскі ўрад пастанавіў устаноўленую сьпярша цыфру аднаго міліярда злотых *зьменшыць да... 400 міліёнаў*!

Ясная рэч, што *недабор 600 міліёнаў злотых*, якія ўрад хоча *„даравацьпольскай буржуазіі*, будзе спагнаны ўсялякімі другімі падаткамі, якія раскладуцца ўжо не на адны толькі заможныя клясы, але і на працоўных мест і вёсак. Ясна, што гэта выйдзе на шкоду перад усім тым, хто нічога ня мае.... Дык „казённыя сацыялісты“ і разыгрываюць перад работнікамі камэдыю, быццам яны—проці даваньня паном гэных 600 міліёнаў злотых.

3 студзеня ў Сойме быў назначаны ўжо разгляд і, ведама, зацьверджаньне!—урадавага праекту аб зьмяншэньні „маёнтковага“ падатку. Але абурэньне працоўных спалохала паноў пэпээсаў, і яны пастанавілі „паламацца“ перад сваімі выбаршчыкамі, удаючы, што яны з усіх сіл бароняць працоўных перад спробай ураду перакласьці новы цяжар на работнікаў і бяднейшае сялянства, зьняўшы яго з плечаў буйнае буржуазіі. З гэтае прычыны ўрад пастанавіў перш, чым правясьці свой закон праз Сойм, паклікаць „экспэртаў“, якія і вырашылі-бы пытаньне, ці ёсьць магчымасьць спадзявацца, што абшарнікі і фабрыканты здолеюць заплаціць скарбу належныя ад іх грошы. За „экспэртаў“ будуць пакліканы, ведама, прадстаўнікі тэй-жа буржуазіі—нейкія тры буржуазныя прафэсары, і залежна ад таго, што яны скажуць, паны пэпээсаўскія міністры маюць даць ці ня даць сваю згоду на „амністыю“ панскім кішэням...

Аб тым, які будзе вынік „экспэртызы“, хіба ніхто сумлявацца ня можа! Пэўна-ж не сумляваюцца і паны пэпээсы....

## Суд над магнатам-душагубам.

У Варшаве ў апэляцыйным судзе распачаўся перагляд справы барона Яна Бісьпінга, вялікага абшарніка з Горадзеншчыны, шамбэляна папскага двара, які перад выбухам сусьветнае вайны быў засуджаны варшаўскім акружным судом на чатыры гады катаргі і пазбаўленьне права валаданьня маёратным дваром Массаляны, у Ваўкавыскім павеце, за забойства князя Друцкага-Любэцкага і сфальшаваньне ягоных вэксалёў.

З прычыны вайны і эдыходу расейцаў з Польшчы магнат-забойца, які быў выпушчаны на волю пад залог у ліку 100,000 рублёў, так і астаўся бяз кары. Але як яго абаронцы, так і пракуратура падалі ў свой час пратэсты на прыгавор акружнога суда, пры чым абарона дамагалася абнявіненьня Бісьпінга, а пракуратура—павялічэньня кары з увагі на тое, што Бісьпінг яшчэ раней памыкаўся атруціць князя Друцкага-Любэцкага, падсыпаўшы яму ў гарбату стрыхніны.

Цяпер справу ў другой інстанцыі разглядае ўжо польскі апэляцыйны суд. I магнат-забойца—з увагі на гэную польскасьць суда — хоча іграць на „патрыятызьме“ і прадстаўляе сябе, як „абаронцу польскасьці на крэсах“.

На якой падставе? — А на такой, што ў імя інтарэсаў польскасьці спаліў адну беларускую вёску ўласнаручна і ўласнаручна ж пастраляў беларускіх сялян, бачучы ў іх ворагаў Польшчы....

Так прынамся сам ён заявіў.

Справа ў тым, што пракуратура, дзеля характарыстыкі магната-вырадка і душагуба, падала да ведама апэляцыйнага суда, што за бандыцкі напад на спакойную, хоць і „неблаганадзёжную“ беларускую вёску, падпал яе і забойства двух сялян Бісьпінг пастаўлены ў стан абвінавачаньня віленскім акружным судом і пакінены на волі пад залог 7,500 злотых. Вось-жа, у адказ на заяву пракурора, магнат-бандыт заявіў у свой чарод наступнае:

„Так, я ўласнаручна спаліў чатыры хаты ды забіў з рэвальвэру аднаго селяніна“.

I далей расказаў, як перад адыходам немцаў у канцы 1918—пачатку 1919 году ён „арганізаваў у Горадзеншчыне польскія аружныя сілы“, і з прычыны таго, што вёска Рамуцёўцы, „як яму сказалі“, была настроена варожа да яго польскіх пляноў і „бунтавалася“ процi ягонае ўлады, ён з навербаванымі ім „патрыотамі“ і з дапамогай нямецкіх афіцэраў „пакараў“ гэную вёску, сваімі рукамі падпаліўшы хаты „бальшавіцкіх павадыроў“, ды палажыўшы на мейсцы стрэлам з рэвальвэру аднаго з сялян.

Учыніў ён гэта, не як прыватная асоба, не як Ян Бісьпінг, а як „абаронца польскасьці на крэсах“, і з гэтае прычыны мае чыстае сумленьне...

Тут гожа адзначыць, што ў той час Горадзеншчына да Польшчы ані юрыдычна, ані фактычна не належала, і Бісьпінг сам прысвоіў сабе ўладу над акалічнымі вёскамі, бо пры немцах быў акупантамі назначаны за войта....

На пытаньне пракурора, ці праўда, што спалены былі не чатыры хаты, а ўся вёска, у якой было 27 хат,—Бісьпінг адказвае, што „можа было іх і 27, але ўсё гэта былі гнёзды бальшавізму“.

На другія пытаньні пракурора ён прызнаецца, што забраў з падпаліваных дамоў увесь інвэнтар і вярнуў яго сялянам „за грошы“, бо „абавязкам яго, як арганізатара міліцыі, было гэтую рэквізыцыю ўзяць на карысьць створанае ім польскае аружнае сілы“. Урэшце — пры зачыненых дзьвярох і бяз публікі — робіць суду нейкую заяву, якая прадстаўляе польскую дзяржаўную тайну, ды павінна яго абяліць....

Бандыцкі разгром беларускае вёскі і забойства безаружнага беларускага селяніна (другі, як кажа пракурор, ляжаў у сваей хаце хворы на тыфус і згарэў разам з хатай!), — прадстаўляе для нас большую цікаўнасьць, чым забойства магнатам-вырадкам князя Друцкага-Любэцкага, прадстаўніка таго-ж польскага панства, да якога належыць і сам душагуб. Дзеля гэтага мы прыпомнім нашым чытачом некаторыя падробнасьці бандыцкага нападу Бісьпінга і навербаванае ім банды, якія былі ў свой час апублікаваны горадзенскімі газэтамі ды перададзены тады-ж беларусамі ў заграністую прэсу.

Бісьпінг з сваей бандай тэрарызаваў усю ваколіцу, робячы „налёты“ на мірныя беларускія вёскі і „рэквізуючы“ ў іх сена, хлеб і ўсялякае дабро на ўтрыманьне гэнае банды. У горадзенскіх газэтах усьцяж друкаваліся весткі аб катаваньнях „апорных“ сялян. Урэшце на найбольш няпрыхільную да ягонае „ўлады“ вёску Рамуцёўцы Бісьпінг зрабіў „карацельную экспэдыцыю“ і вычвараў тамака рэчы, ад якіх валасы на галаве дыбам станавіліся! Акружыўшы ўсю вёску, Бісьпінг пад'яжджаў да паасобных хат, зачыняў і падпіраў дзьверы, не даючы нікому выйсьці, і ўласнаручна падпаліваў страху. Можна сабе прадставіць, што перажывалі нешчасьлівыя людзі, не выключаючы жанок і дзяцей, над галовамі якіх шугала полымя! I толькі тады, як ужо ўся хата стаяла ў вагні, зьвер-магнат загадваў расчыняць дзьверы і выпускаць ашалеўшых ад страху сялян...

Так Бісьпінг „бараніў польскасьць на крэсах“ і за гэтую „абарону“ жадае цяпер падзякі: апраўданьня як у гэтай самай справе, так і ў справе забойства князя Друцкага-Любэцкага.... I зусім слушна сказаў на судзе пракурор:

— „Задалёка мы зайшлі-бы, калі-б аргуманты аб арганізаваньні Бісьпінгам палка гузараў мелі мець нейкую вагу для гэтае справы. Мала не хапае, каб п. Бісьпінг прыпісаў сабе заслугу для Айчызны ў „Цудзе над Віслай“. Гэта-ж выглядае на жарт!“

## У гасьціне у польскай буржуазіі.

У Польшчу прыяжджалі важныя чужаземцы.

Ні болей ні меней, як гаспадарчая экскурсія з СССР—паглядзець, што выробляюць польскія фабрыкі, ды якія тавары і на якіх варунках можна было-б купляць у Польшчы.

А Польшчы, як ведама, няма дзе прадаваць свой тавар: на Захадзе ён нікому непатрэбен, там і свайго няма куды падзець.

Дык радасьць запанавала ў сэрцах усіх добрых палякоў: вось „браты славяне“ з Усходу — яны выратуюць!..

I радасьць гэтую „шчырыя“ людзі паказалі экскурсантам у вялікшай меры, чым гэта мо' было патрэбна.

Вось жменя абразкоў з падарожы радавых гасьцей.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З Варшавы — у мілай кампаніі з прадстаўнікамі польскага ўраду—паехала экскурсія ў Люблін.

Пад'яжджаюць да места. Пагода панурая, імжыць дробны дожджык, ад якога людзі звычайна ёжацца і хаваюць галаву ў настаўлены каўнер...

Вось і станцыя. Цягнік спыніўся. Госьці і іх павадыры выходзяць з вагону. I раптам шырока расчыняюць вочы: перад імі—прадстаўнікі мяйсцовае ўлады і прамыслоўцаў, дый усе стаяць, пазьнімаўшы капялюшы, з голымі галовамі, і так сьмешна каплі дажджу сьцякаюць з лысінаў на тлустыя голеныя твары...

Такая была першая сустрэча „чырвоных катаў“ прадстаўнікамі польскае буржуазіі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Кракаў — старая сталіца старой Польшчы. Тут прамысловасьці шукаць ня прыходзіцца. Затое ёсьць магчымасьць пахваліцца нечым другім: тым, што сотні гадоў таму тварыў польскі народ. Дык паказваюць багатыя памятнікі мінуўшчыны.

А пасьля—няўхільны банкет.

На банкеце прадстаўнікі польскага грамадзянства ў вельмі карэктнай форме вітаюць „дарагіх гасьцей“—гэтым разам без лякайскае ўніжонасьці. Адказваючы на прывітаньні, адзін з сяброў экскурсіі высказвае сваю радасьць, што яму ўдалося пабываць у месьце, дзе „некалі жыў незабыты таварыш Ленін, ды мо' сніваў пляны аб будучыні, якія цяпер зьдзейсьнены ў СССР“...

I прадстаўнікі польскае буржуазіі пакрываюць гэтую прамову гучнымі воплескамі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З Кракава паехалі на Сьлёнск—гордасьць Польшчы. Тут дык ёсьць што паказаць!..

Але запраўдныя тварцы сьлёнскае прамысловась-

чыў сьвет са сцэны ня ў Вільні, а ў Радашкавічах. У Вільні гэтай камэдыі (ці мо' лепш: фарсу) ўсё ня шэньціла: двойчы хацелі іграць яе беларускія студэнты, але двойчы ім камісар ураду не даваў дазволу. І толькі ў мінулую нядзелю адыгралі п'есу на вечарыне, уладжанай Віл. Бел. Гімназіяй.

П'есу адыгралі добра—пад кіраўніцтвам і з учасьцем самага аўтара (роль „шчасьлівага мужа“ Гаўдэнта), ды з учасьцем такой сілы, як артыст Булгак („граф“ Мацальскі). Вельмі добра іграла і жонка Гаўдэнта, Магдзя. Ды толькі Уршуля сваім шаржам псавала агульнае ўражаньне, тым больш, што і з яе беларускай мовай было вельмі дрэнна, а грым папамінаў балаган.

П'еса, як і ўсе п'есы Аляхновіча, з боку сцэнічнага напісана вельмі добра, жыва, ярка і самавіта. На жаль, рэч гэта—зусім пустая, бязыдэйная, і можна толькі пашкадаваць, што аўтар свае творчыя сілы расьцярушывае на гэткія творы, нічога ня кажучыя беларусу — ні яго розуму, ні сэрцу.

**Забастоўка друкароў у Вільні.** 8.II 1926 г. Пачалася забастоўка друкароў, якія жадаюць 25% падвыжкі.

**Курс грошы.** Даляр — 7 зл. 25 гр. Залаты рубель—3 зл. 73 грошы.

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

У газэце „За Свободу“ ад 23/І г. г. № 18, у аддзеле пісьмы з правінцыі надрукавана карэспандэнцыя з Палесься пад загалоўкам: „Собираніе сіл“, дзе сказана аб тым, што ў зьвязку з надходзячай выбарнай кампаніяй, дзеля ўзгадненьня працы я меў цэлы рад канфэрэнцыяў з п. п. Паўлюкевічам, Цяўлоўскім і інш. Катэгарычна заяўляю, што ў ніякіх канфэрэнцыях удзелу ня браў, а небезвядомага дзеяча „ідэйнага беларускага руху“ п. Паўлюкевіча зусім ня бачыў. Лічу гэта чарговай газэтнай плёткай з палескіх балот, пушчанай дасужым карэспандэнтам з поўнай сьвядомасьцяй ілжы і з мэтамі, якія астаюцца на яго сумленьні.

Сэнатар **А. Назарэўскі.**

Даючы ў гэтым № „Бел. Нівы“—„Гаспадарчы аддзел“, каторы з'яўляецца далейшым працягым тых гаспадарчых дадаткаў, якія выходзілі ў 1925 годзе, прыпамінаем і радзім нашым паважаным чытачам, каб „Гасп. Дадатку“ ня нішчылі, а, адрэзаўшы ад газэты і адпаведна зламаўшы, падшылі разам з папярэднімі №№.—Гэтакім чынам зложыцца цікавая і карысная гаспадарчая кніжка, якая ня будзе лішняй у хаце кожнага селяніна.

## Карэспандэнцыі.

### Сумуе душа мая па табе, Беларусь!

(В. Рымкі, Пастаўскае гм., Дунілов. пав.).

Прыводжу адзін факт, які здарыўся ў нашай вёсцы пры складаньні дэклярацый з жаданьнем роднай беларускай школы.

Даведаўшыся, што „языковы“ закон 31/VII 24 г. ўвайшоў „пасьля цяжкіх радзін“ у жыцьцё, вёска хутка прышла ў рух.

Рух гэты ахапіў як праваслаўных, так і разумнейшых каталікоў-беларусаў, і здавалася ў гэны час, што няма на сьвеце тэй перашкоды, якая здалела-б затрымаць імкненьне сярмяжнікаў да сонца праўды і навукі ў роднай мове. Аблічча ўсіх грамадзян вёскі пасьвятлела, усе гатовы былі ў той час забыцца пра падаткі, пра нядаўныя крыўды, зьдзекі, бо думкі лепшага грамадзянства захоплены былі толькі адным: школай, школай роднай, беларускай, якая, як зорка пуцяводная, асьвяшчае цярністы шлях вялікага **Беларускага Народу**.

Але гэта зорка на час для нас пагасла, і вёска **пакуль-што** астаецца без сваей школы, бо да 31 сьнежня ўсіх фармальнасьцяў зрабіць не здалела.

Праўда, на першы пачатак зрабілі ўсё, як трэба, ці, правільней, як трэбавалі: падалі просьбу, выставілі адпаведнага кандыдата ў настаўнікі, сабралі ўдвая болей, чым гэтага трэ' было па закону, правамочных подпісаў і г. д.

Адным словам, жылі надзеяй, што хутка ўбачым нашых дзетак у роднай школе-мілай, а ня ў чужой-абрыдлай, бо тады яшчэ верылі, што законы ў „нас“ пішуцца для нас, а не для Лігі Народаў.

Але хутка мы даведаліся, што выдумалі яшчэ распараджэньне, па якому трэба падаць ад кожнага бацькі дэклярацыю, дый заверыць яе ня бліжэй, як у гміне, якая ад нашае вёскі знаходзіцца за 40 вёрст.

Вось тутака і дагадаліся ўсе ворагі беларускіх школ, што „мужыцкай“ школе будзе пастаўлены крыж, як толькі трэ будзе кожнаму бацьку, ці апякуну „zgłosić się“ у гміну за 40 вёрст, дый пэўне і не адзін раз; вось тутака і знайшлася перашкода да „абяцанай зямлі“ і не ў адным месцы...

Да ўсяго гэтага знайшліся і абаламучаныя, над якімі папрацаваў па загаду сваіх паноў польскі настаўнік (на сорам—тутэйшы беларус!), які задаўся мэтай: прышчапіць у нас „польскую культуру“.

І цяпер, пішучы гэтыя радкі, чую, як у школе настаўнік, „прышчэпліваючы“ польскую культуру, дзярэ ва-ўсё горла: „nie mówić pobiałorusku“! І дзеткі маўчаць, бо ня ведаюць, чым яны правініліся, загаварыўшы паміж сабой роднай мовай. Жаль сьціскае сэрца, дрыжыкі праходзяць па целу,!.. але ня трэба адчаівацца!..

**Падарожны.**

### Нябывалыя і нячуваныя парадкі.

(З падарожы па Дзісеншчыне).

Як вядома ўсім, (а хто паспытаў і на сваей скуры), што даляр нядаўна скакаў на ўсе бакі.

А гэта было на руку—каму патрэба.

Гэтак у Празароках ёсьць панская крама „Hurtownia Kresowa“. Дык у гэтай краме ў дні скокаў даляру прадавалі: цукер па 2 зл. за кл. (а ў цэньніку 1—50), муку пшонную 1 зл. кл. (цэньнік 60 гр.), сернічкі 10 гр. за карабок і г. д. Калі людзі пыталіся, чаму гэтак? дык кіраўнік крамы Камароўскі адказываў, што дастаў тэлеграму ад сваіх „паноў“, каб тасаваць цану тавараў да цаны даляра. Ці лгаў ён, ці казаў праўду, — няведама. Толькі ведаем, што цукер, мука, газа, сернікі—усё гэта робіцца ў Польшчы і на даляры ня купляецца. Што рабіла местачковая камісія „do walki z lichwą“, невядома: мо' спала, а мо' глядзела праз пальцы, бо ў камісіі „wszyscy swoi“, ну, дык як-жа рабіць прыкрасьці „także swoim“?

А „пану“ К. пэўна гэтыя дзянькі не зашкодзілі: зашкодзілі яны толькі кішаню селяніна і рабочага.

Чуем мы гэтак-жа, што будуць зьмяншаць лічбу чыноўнікаў (нарэшце мо',—а ўжо даўно пара!) Дык нарэшце можа загляне гэтая „рэдукцыя“ і ў нашыя валасьці, гдзе сядзяць непатрэбныя нейкія лаўнікі, па тры-чатыры памоцнікі пісара і г. д., якія сядзяць на карку вёскі і даядаюць рэшткі сялянскае гаспадаркі.

А сярод гэтых „мазалістых працаўнікоў“ ёсьць гэтакія, што маюць і пасаду, а разам і асаду.

Гэтак ёсьць у Празароцкай валасьці, гдзе пісар гміны—ён-жа і асаднік у Празароках, а гэтак-жа і тамашні вучыцель Выцікевіч.

Панам чыноўнікам, якім пагражае „рэдукцыя“, і беспрацоўнай інтэлігенцыі трэба гэтакія выпадкі запамятаць і троху мацней загаварыць, каб пачулі, дзе трэба! **Зязюля.**

### З Лідчыны.

Прышлося быць мне на Коледы ў швагра ў гасьцях—у вёсцы Бурцічах. Сьвяткавалі там усе пастараму, як і даўней, бо-ж ўся вёска праваслаўная.

Выйшаў я ўвечары на вуліцу, ажно чую: хтосьці ўсё пад кожную хату падходзіць і кажа ідзіце на прадстаўленьне—ужо пара. Падходзіць бліжэй і да мяне. Пытаюся, якое-ж дзе будзе

 Прыкозі! „Гаспадарчы аддзел,“ №1

## Арганізацыя помачы зямляробу Беларусі.

Паляпшэньнем эканамічнага быту адвечных жыхараў тэй часткі Беларусі, якая апынулася ў межах Польшчы, як мы бачым, Урад саўсім мала цікавіцца, а разам з тым нічога ня робіць дзеля помачы найважнейшай жыцьцядайнай крыніцы нашай—зямляробству. Прадаючы і нішчучы прыроднае багацьце нашага Краю—лясы, выціскаючы цераземерныя падаткі з таго-же зямляробства, каторае, успамянуць трэба, вядзецца адсталымі спосабамі, ён ня болей за сотную частку процанту з сваіх прыбыткаў выдзяляе нам на т. зв. сельска-гаспадарскую помач, з каторай, аднак, дзеля цэлага раду прычын не карыстае беларускі селянін, які ўсётакі ўвесь цяжар падаткаў нясе на сабе і які ў 99% засяляе гэты Край.

Дзеля яснасьці, даволі сказаць, што Урадам яшчэ дагэтуль ня выпрацаваны кірунак, якога маюць трымацца зямляробскія гаспадаркі ў Краю: няма ведама, чы маема і выгадней нам будзе весьці гаспадаркі збажжовыя, чы заняцца ўзгадаваньнем жывёлы, млячарствам і г. п.,—а на гэта часу ўжо даволі было! Нашыя-ж суседзі, як латышы, эстонцы, за гэты час ня толькі здолелі правясьці зямельную рэформу, але і патрафілі ўжо пераарганізаваць свае гаспадаркі так пляново, што цяпер прадукцыя іх стаіць надта высака, і яны закідваюць нас дый другія Краі сваім маслам і другімі вырабамі, зарабляючы на гэтым вялікія грошы.

Не ўваходзячы ў тое, у якім кірунку пойдзе наш зямляробскі промысл, хачу сказаць адно, што прадукцыяй збожжа на прадажу мы займацца ня можам, бо попыт на яго будзе малы дзеля ягонай нізкай вартасьці і вільготнасьці; калі ўспомнім часы даваенныя, то цана нашага збожжа на мейсцы была на 20% ніжэй, чым збожжа сібірскага, ды ўкраінскага. Гэта нам паказуе, што можам хіба гадаваць збожжа на патрэбы сваей сям'і, а лішкі—на пераробку ў мяса, малако, іначай—на корм і адкорм жывёлы. Гэтага цяпер мы ня робім і калі пачынаем рабіць, то ізноў яно нам не ўдаецца і прыносе страты; напрыклад, адкорм аднэй свіньні, нашаму жыхару вёскі прыносе страты да 40 злотых. Усё гэта дзеецца дзеля таго, што мы гаспадарым, як гаспадарылі нашы дзяды і прадзеды, ды няма ў нас у гэтай галіне ніякай арганізацыі і пляну.

Так доўга быць ня можа; калі Урад у гэтым напрамку нічога ня робіць, павінны рабіць мы самі; усе нашыя сьвядомыя спэцыялісты зямляробы ды эканамісты-беларусы павінны пайсьці на помач свайму народу, ствараючы магутныя сялянскія зямляробскія арганізацыі, апіраючы іх на каапэрацыю, і тады, незалежныя ад ніякіх уплываў, будзем мець магчымасьць нясьці зямляробскую веду ў сваей мове ў народ, апрацовываць праграмы працы нашаму зямляробству і г. п.

Першыя крокі нашых кволых пачынаньняў ў гэтым напрамку ў мінулым годзе, як выдаваньне сельска-гаспадарчага дадатку пры газэце, прынясьлі нам назьдзіў неспадзяваныя рэзультаты. Ускалыхнуліся сяляне, павялічыўся лік нашых падпісчыкаў-прыхільнікаў, пасыпаліся карэспандэнцыі—запытаньні ў розных справах, зьвязаных з жыцьцём нашых зямляробаў, зьявіліся новыя сілы супрацоўнікаў



на падмогу нашай невялічкай групе, пачынаюць закладацца рознага роду каапэратыўныя ўстановы, высказываюцца пажаданьні, каб наш сельска-гасп. дадатак пачаў выхадзіць у форме спэцыяльнай с.-гасп. часопісі ў павялічаным разьмеры і г. п.

Вось тое неспадзяванае прабуджэньне вёскі застае нас у расплох і цяпер, прыймаючы пад увагу ўсё гэта ды падлічаючы свае сілы, сілы сваей групы,—мы з сумам мусіма сцьвярдзіць, што да гэткай вялікай працы, да якой кліча нас народ, нас замала, і мы дзеля таго зьвяртаемся да ўсіх беларусаў-спэцыялістаў па с.-гаспадарцы, каапэратыстаў ды эканамістаў, а такжа спачуваючых нашым пачынаньням спэцыялістаў іншых народнасьцяў (украінцаў, літвіноў, расейцаў і палякоў) з заклікам памагчы нам у працы, працы ідэйнай, і ў супольным высілку павясьці наш сярмяжны народ да сьветлай будучыні.

Нашых-жа прыхільнікаў і чытачоў просіма ў гэтым новым годзе так сама шчыра аднасіцца да нас, называючы ў сваіх карэспандэнцыях тыя справы з зямляробства, якія іх найболей цікавяць і абходзяць нашу вёску,—а мы, у меру сіл сваіх, пастараемася закрануць гэтыя тэмы на старонках нашай пакуль-што малюсенькай часопісі.

*А. Беззямельны.*

## Якім зярном сеяць.

Каб атрымаць добры ўраджай, не даволі ніву ўзараць ды ўгноіць: трэба і ўсеяць у яе добрае зярнятка. На гэта мы земляробы рэдка зьвяртаем увагу і гэта памагае нам зьнімаць плады па 40—50 пудоў з дзесяціны, тады, калі побач з намі другія гаспадары зьнімаюць і па 100—110 пудоў з тэй жа зямлі. Ды толькі, калі вывязеш сваё збожжа на рынак і падзівішся на другіх збожжа, дык зразу пабачыш вялікую розьніцу: нашае зярно і шчуплае, дробнае, ды шмат у ім усялякіх іншых сямян, а дзеля таго і цану за яго плацяць куды меншую, чым за зярно добрае. Направіць гэту бяду ня так трудна, трэба толькі ведаць, як узяцца за работу. Перш-наперш, **трэба сеяць зярном поўным, здаровым ды важкім.** Рабіць гэта трэба дзеля таго, што толькі такое зярно дае сільную расьліну, а тая дорты плод, бо ў кожным зярнятку ёсьць зародак, г. зн. пачатак новай расьліны, ды на першыя дні росту корм для яго, і чым зярно паўней, тым большы запас корму ў ім дзеля зародка, а калі зярно здаровае, дык і зародак тож здаровы. Пазнаць ці зярно здаровае лёгка—трэба дазнацца, як яно ўсходзіць. Дзеля гэтага бяруць пробу з насеньня пакрышцы з кожнага мяшка і з тэй пробы адлічаюць як ідзе 100 зярнят; зярняткі сеюць у скрыначку з зямлёю і ставяць яго ў цяпле, паліваючы, каб зямля не перасыхала, праз некалькі дзён зярнята ўзойдуць, тады падлічаюць сколькі ўзышло і па гэтаму судзяць, якое насеньне, ці здаровае, ці дрэннае. Нармальна на 100 зярнят добрага насеньня пшаніцы ўсходзіць 90—70 шт.; жыта азімага 90—80 шт.; грэчкі 90—70 шт.; аўса 80—50 шт.; гароху 93—80 шт.; ячменю 85—60 шт.; выкі 90—70 шт.; лёну 84—70 шт.; канаплі 67—25 шт.; і калі акажацца, што ўзышло зярнят меней, дык варта добра падумаць, ці ня лепш будзе гэта насеньне прадаць ці з'есьці, а на пасеў купіць другое. Таксама і на колер ды лоск, сьвежае і здаровае насеньне розьніцца ад благога: цёмнае насеньне

прадстаўленьне і хто яго будзе рабіць, а ён кажа: гэта робіць польскі вучыцель, а сам пашоў далей па хатах з наказам.

Прыйшоў я ў хату і пытаюся ў швагра, што ў вас у вёсцы за прадстаўленьне? Гэта, — кажа швагер, вучыцель Тамкевіч, нейкую батлею робіць. Пайшлі і мы пабачыць, што там будуць паказваць; ажно там ужо сабралася з сем кабет і недаросткаў, мусіць, з восем, а можа і дзесяць, праўда, быў адзін мушчына, што ў вёсцы быдла пасьвіў,—пастух,—а больш з мушчын нешта ніхто ня быў, ня ведаю, чаму гэта так. Праўда, зараз адкрылі дзяругу і пачынаюць прадстаўляць, як і казалі, нейкую батлею папольску. Але хто-ж там прадстаўляў? — ведама, сам вучыцель Тамкевіч, яго жонка і сястра і хлопцаў са-тры і таксама дзяўчат. Прадстаўлялі нейкага Круля Гарэда і чорта і сьпявалі польскія песьні, my polski naród, і т. д. Хто там быў, то нічога не зразумеў, толькі як быў перерыў, то было чутно, як кабеты гаварылі адна аднэй: „я вось, кумка, ніяк папольску не разумею нічога“,—а тая кажа: „а я, каб ведала, што папольску, то ніяк не пашла-б“, — а трэйця кажа: „а я думала, што будзе пабеларуску; й ішчэ, як выходзілі, то толькі было чутно нараканьні кабетаў, што далі па два яйкі за білет, а нічога не зразумелі. Але-ж,—кажа,—ужо больш не абмануць і баб!

**Госьць.**

## Добрая праца.

(Вёска Конюхі, Ляхавіцкае гм., Баранавіцкага п.).

Едучы каля вёскі Конюхі, убачыў я каля магазыну, дзе раней ссыпалі збожжа, натоўп людзей; гэта было праваслаўнымі Калядамі (27.XII.25 г.)

Прыпыніўся, думаючы: ці ня б'юцца пьяныя хлопцы, (бо гэта часта здараецца ў нашых баках), але, ня чуючы ніякіх грозных крыкаў, падыходжу,—распытваюся і, даведаўшыся, дзеля чаго гэткі рух, моцна зацікавіўся. А цікавіцца было чаго, бо вясковыя хлопцы, ды навет і дзяўчаткі прыбіраліся наладжываць спэктакль.

Ня гледзячы на тое, што мне трэба было ехаць далей, бо меў пільны інтэрас, надумаўся пабываць у вясковым ціятры і мушу прызнацца, што не пашкадаваў.

Гралі жарт М. Крапіўніцкага „Пашыліся ў дурні“ (пад кіраўніцтвам нейкага гімназіста), і павінен сказаць, што сыграны надта добра; я забываўся... мне здавалася, што бачу перад сабою праўдзівых Драўка і Куксу, а ня, простых пераапранутых і загрымаваных вясковых хлапцоў.

Заслона зачынілася ў апошні раз, а я сяджу і чакаю, каб яшчэ паглядзець на дарагіх сэрцу майму артыстаў...

Разгледзяўшыся па салі, бачу: сядзіць нейкі пан; потым даведаўся, што гэта быў памешчык з суседняга маёнтку, відаць, што і яго зацікавіў спэктакль удалых хлапцоў.

Трэба сказаць, што сцэна і дэкарацыя былі зроблены скромна, але хораша—адпаведна, відаць, што працавалі людзі сьвядомыя.

Публікі было надта многа; хто прыпазьніўся, мусіў варочацца дамоў, бо месц не хапіла.

Пазьней я даведаўся, што конюхаўцы гралі 14 і 17 студзеня „Модны Шляхцюк“, „Зьбянтэжаны Саўка“ і „Пасланец“ і свайго добрага дзела пакідаць ня думаюць: к грамніцам зьбіраюцца наладзіць „Залёты“ Д.-Марцінкевіча, а пазьней многа іншых.

Больш бы гэткіх хлапцоў, больш-бы гэткіх добрых здарэньняў, тады можа сьвятлей і весялей засіяла-б сонейка і на нашай многапакутнай бацькаўшчыне—Заходняй Беларусі.

Божа памажы вам, дарагія браткі!

**Зьмітручок Цікавы.**

## Што гэта: непаразуменьне ці помста?

(Слонімшчына).

Было гэта 5-га студзеня. Ішоў я ў Слонім у „P.K.U.“ на „zebranie kontrolne“. Вярстоў дзьве ад горада нагнаў я кульгавага, які, сеўшы адпачываць з прычыны вялікае падарожы, аціраў з твару пот. Я прысеў недалёка ад яго, закурыў і даў суседу.

— Дзякую,—прыпадняўшы шапку, сказаў ён.

— Даўно вы калекай—зьвярнуўся я да яго.

— Даўно. Гады два мне было, як са мной гэтак зрабілася.—Вецер падвеяў—гаворыць маці!..

— Скуль вы і куды ідзеце?

— З за Жырава—іду ў П.К.У. (P.K.U.) на якуюсь праверку.

— Ата-ж вы калека ня здольны, якая можа быць вам праверка,—зьдзівіўся я.

— Дакуманты вы маеце якія?

—Маю — адказаў ён і палез за пазуху, адкуль дастаў карту звальненьня.

Гэта быў жыхар вёскі Залесьсе, Сьцяпан Дарашэвіч з 1900 году, „uznany za całkiem niezdolnego do pełnienia służby wojskowej“.

— На камісіі прызналі вас ня здольным і на заўсёды звольнілі ад службы ў войску,—паясьніў я,— а на сёньня трэбуюць рэзэрвістаў, якія маюць літару „A“ і „pospolite ruszenie z bronią“.

— Гэтак казалі мне і ў вёсцы ня раз сваі хлопцы, але войт (Жыравіцкае гм. пан Гудовіч) прыслаў запіску да солтыса, каб абавязкава явіўся. Прасіў падводу ў войта, дык дзе там—ня рад, што і зачапіў!

Можаш ня можаш, а цягніся—хоць ракам, а чаго каб папытаўся?—пасьмяюцца, як у той першы раз (16/II 1922 г.).

Каб не спазьніцца,—хапіўся Сьцяпан. Разьвітаўся са мной, на сілу падняўшыся і зноў пакульгаў да P.K.U. на „zebranie kontrolne“.

А першай гадзіне пайшоў я да P.K.U., справіўшыся ў горадзе, каля турмы (недалёка ад P.K.U.) спаткаў я Сьцяпана ўжо ідучы назад.

— Ну, што табе сказалі,—папытаўся я.

— Што... Ахвіцэр сказаў, што яму калек ня трэ, вось, што сказалі.

У P.K.U. спаткаў я кабеціну гадоў 50 з Ч. гм., якая каля будынку дубела, чакаючы з самага ранку замест сына вар'ята „якоесь праверкі“.

Так зьдзекуюцца „культурныя“ паны войты над беларусамі—калекамі, мусіць добра ведаючы, што: „запас бяды ня чыніць“.

**Сымон Калюта.**

## „Пара паразумнець“

(Скідэльшчына, Горадзенскага пав.).

Непадалёчку ад нас, вёрст мо' якіх са тры, — месьціцца вёска Асошнікі. Вёсачка бедная, хаткі нямудрацкія, як наагул ува ўсіх нас беларусаў, і людзьмі і Богам забытых. Пра жыцьцё самых жыхароў і гаварыць няма чаго... Адну ўцеху, адну нагараду за сваё сьмірэньне „рабоў божых“ і маюць Асошнікі: гэта панну вучыцельку, каторую нядаўна прыслалі, каб вучыць іхніх дзетак розуму папольску.

Ня ведаю, з якім пачуцьцём прынялі Асошнікі гэту міласьць. Але далі кватэрку (бо тут раней школы ня было),—вучыце толькі. І вўчацца маленькія дзеткі, калечаць сваю душу, а бацькі хоць-бы што: ім усё роўна!

Чаму-ж гэта, здаецца, ня выпісаць Асошнікам газэтку нашу — беларускую, дзе амаль ня ў кожным нумары гаварылася, як, якім спосабам можна выклапатаць сваю родную школу, як і каму падаваць дэклярацыю аб адчыненьні яе? А вёсачка не малая — дзетак, дзякаваць Богу, ёсьць. Ды што там—добра ведаю, каб хто выклапатаў ім дазваленьне адчыніць сваю беларускую школу, Асошнікі шчыра дзякавалі-б.

У канцы мушу прызнацца, на вялікі жаль, што і ўзрослыя дзяцюкі ды дзяўчаты акуратна кожны вечар слухаюць лекцыі на польскай мове, ад той-жа вучылькі. (Відаць, маюць вялікі духовы голад)! Мала таго, пані вучыцелька знаёміць іх навет з нямецкай ды францускай мовай.

Усё гэта, дарагія маі, так. Як кажа прыказка: „вучэньне сьвет, а нявучэньне цемра“, але, як на мой розум, дык перш-на-перш трэба пазнаць самога сябе, а тагды другіх. Браткі вы мае, ужо і так з нас кожны насьмяхаецца, бо ткі і ёсьць над чым... Дзе гэта відана было, каб перш-на-перш хто стараўся пазнаць жыцьцё народу зусім для яго чужога, нямаючага з ім нічога супольнага, а тое сьвятло, тое аружжа проці нашых бед, нашай цемры, якім зьяўляецца наша родная мова,—адкінуць, заняхаяць, аддаць самых сябе на зьдзекі, якіх досыць і так мы цярпімо?!

Дык слухайце-ж, браткі! Пара паразумнець. Вы маладыя—жыцьцё ў грудзёх вашых кіпіць і рвецца на волю, дык давайце карыстацца тымі выгадамі, якія паслужаць Вам на карысьць, а не насьлядуйце прыкладу Асошніцкай моладзі.

— „Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі“—казаў наш слаўны паэт Мацей Бурачок.

**Сусед.**



і бяз лоску напэўна дрэннае, да гэтага часта бывае тухлае, а алеістых расьлін аддае з'ялчалым алеем. **Трэба** яшчэ **сеяць чыстым насеньнем**, нячыстае насеньне—вось жа прычына, чаму на нашых палёх добра разьвіваюцца ўсякія сьмятлівыя (дзікае зельпе) травы.

Калі ўзяць 1 фунт насеньня жыта ў нашага гаспадара, дык там мы знойдзем болей-меней 18.700 зярнят жыта і 5.800 зярнят усялякіх сьмяцьцёвых траў—выходзе, што на тры зярняткі жыта прыходзіцца 1 зярно сьмяцьця. Вось, усё гэта мы ўсяваем у сваё нівы, а як вядома, сьмяцьцёвыя травы, жывучы на ніве разам, адбіраюць у нашага збожжа іх спажыўныя часткі




Рыс. 1. Веялка-сартыроўка.

і вільготнасьць, ды часта проста заглушаюць яго зусім. Як-жа атрымаць добрае насеньне ў сваей гаспадарцы і чаму яго ня маюць нашы гаспадары? Нашы гаспадары чысьцяць насеньне толькі старымі спосабамі, ці веюць яго лапатай на ветры, а калі веюць машынай, дык ужываюць простую веялку. Гэтымі спосабамі атрымаць чыстае, поўнае і важкае насеньне ня можна. Простая веялка адвейвае толькі мякіну. Дзеля гэтага трэба насеньне перапусьціць зпачатку праз веялку з сітамі—сартыроўку, (Гл. рыс. 1), каторая падзеле зёрна на большыя, сярэднія і меншыя. Далей трэба яго прапусьціць да ачысткі ад сьмяцьцёвага насеньня праз асобую машыну, якая называецца трыерам, „зьмейкай“, (Гл. рыс. 2 і 3), а каб яно было яшчэ і важкім, трэба яго прапусьціць праз сартыроўку—млынок бяз сіт (Гл. рыс. 4), каторы разьдзеліць зярно на болей важкае і меней важкае. Дзеля канюшыны, выкі з аўсом, ды лёну патрэбны яшчэ іншыя машыны. Ведама, што купіць усе машыны аднаму гаспадару цяжка і аб гэтым думаць нельга, ды і яны толькі аднаму яму на ўвесь час непатрэбны. Праца на гэтых машынах ідзе надта хутка, так што за некалькі месяцаў яны могуць абслужыць усю вёску, а дзеля таго іх трэба купляць цэлым вёскам у складчыну, ці старацца, каб іх куплялі соймікі ў павеце, раздаючы гмінам, ці хоць-бы самі гміны ставячы іх пад адказнасьць усіх гаспадароў вёскі, такім чынам мы значна палепшым свой плод, а тым самым і будзем мець большы даход з гаспадаркі. Да гэтага, калі-б гаспадаром прыхадзілася купляць насеньне дзеля пасеву, дык за яго лепш заплаціць даражэй і купіць у пэўным мейсцы, як у складах таварыстваў зямляробскіх, ці ў сельска гаспадарчых каапэратывах: там яно пэўнейшае. Ня можна так-жа выпісываць насеньня здалёк: расьліны, як і



жывёла, вядуцца добра і даюць высокія плады толькі ў тых абставінах, у якіх яны прывыклі жыць.



Рыс. 2. Сартыроўка з сітамі Трыэр.



Рыс. 3. „Зьмейка“.



Рыс. 4. Млынок бяз сіта (сартыроўка па вазе).

*Камтагам.*

## Узгадаваньне малочнай каровы.

Рэдка калі гаспадары нашы знаюць, як выгадаваць сабе добрую малочную карову, а нязнаньне гэтага цяжка адбіваецца на і так убогай гаспадарцы нашага селяніна. Гадуем сабе прыплод—целку, а яна ў канцы-канцоў, ужо добрай каровай па трэцім цялятку, гарнец малака ў дзень прыносе, як яе не кармі і то на пяць месяцаў перед цяленьнем зарывае. А падлічыўшы і выходзіць тады: што за ўвесь той корм, які яна з'ела, каб прадаць, у чатыры разы болей малака купілі-б, ды без ніякой працы і клопату. Аднак, ня рэдка каровы, як вядома, даюць і па 7 — 8 гарцаў малака ў дзень. І вось як брацца да справы г. зн. карміць і ўзгадовываць целак і маладых кароў на малочных кароў, хачу карстка абгаварыць і падзяліцца сваім досьледам з братамі сялянамі. Перш-наперш трэба добра ўцяміць, што іначай мы кормім цёлак на мяса—на ўбой, інaчай дзеля хову — на малочных кароў. У першым выпадку кормім іх сытней, а ў другім наадварот надта сытае кармленьне паніжае выдайнасьць малака ў іх

# З Радавае Беларусі.

## Дзяржаўная прамысловасьць у БССР.

Усяго ў дзяржаўнай прамысловасьці ў БССР намечана даць працу ў будучым бюджэтным годзе 12.309 рабочых,—на 29.6% (амаль не на траціну) больш, чым у папярэднім годзе. Лічучы разам з работнікамі па загатоўцы лесу, агульная лічба рабочых дзяржаўнай прамысловасьці дасягне 22.084, ізноў амаль не на траціну (30.3%) больш супраць мінулага году.

Якім-жа грашовым капіталам валадае гэта дзяржаўная прамысловасьць БСРР?

Агулам аснаўны грашовы фонд гэтай прамысловасьці — 9 мільёнаў 674 тысячы 900 рублёў. З гэтага найбольш значны капітал мае „Лес-Бел“ (— 21.2 проц.), „Папер-Трэст“ (18.9 проц.), аб'яднаньні льнапрадзільняў (18 проц.), „Харч-Трэст (—17.6 проц.). Іншыя маюць менш. Абаротны капітал дасягае 5,833.200 р,, з чаго 34,9 проц. прыходзіцца на долю Лес-Белу.

## Палепшаньне грунтаў у Усх. Беларусі.

Усходняя Беларусь наагул—радзей населена, як Заходняя, але і там, хаця няма ўжо паноў, ня толькі няма тых „вялікіх запасаў“ зямлі, на якія ў нас тут дарэмна спэкулюе польская асадніцкая палітыка, але—наадварот—і там навет істнуе так-званае „аграрнае перанасяленьне”, ці папросту — не хапае для зямляроба выгаднай зямлі...

Але ў той час, калі ў нас, у Заходняй Беларусі, да нашай зямельнай цеснаты напіхваюць нам чужацкіх асаднікаў, ня робячы літэральна нічога для павялічэньня плошчы добрай зямлі для мяйсцовага хлебароба,—на Усходзе сялянская ўлада пайшла рашуча шляхам павялічэньня агульнага зямельнага фонду краю для працоўнага зямляроба. Пляновай, у дзяржаўным маштабе і з накладам вялікіх грошаў, так-званай „мэліарацыйнай працай“ занялася ўлада ў БССР вельмі паважна. Найцікаўней, што дзяржаўная ўлада, асыгнуючы на гэтую працу значныя сумы, вядзе яе ня толькі праз сваіх урадоўцаў і тэхнікаў, але дала вялікую самадзейнасьць самім заінтэрасаваным у ёй сялянам. У сучасны мамэнт у БСРР больш за 400 „Мэліарацыйных Таварыстваў“, і лічба іх усьцяж расьце.

Большасьць гэтых таварыстваў пакуль што, праўда, абмяжоўваецца правядзеньнем прасьцейшых мер у кірунку паляпшэньня сенажацяў на невялічкіх абшарах: нішчэньнем хмызьняку, зрэзкай купінаў, выкарчоўваньнем пнёў і т. п., бо ў сялян няма патрэбных на вялікі маштаб грошаў, не хапае доўгатэрміновага крэдыту. Але цяпер Наркамзем апрацаваў сыстэматычны плян, які, атрымаўшы патрэбнае фінансаваньне, шпарка папхнець гэтую працу больш шырокім шляхом і больш шпаркім тэмпам.

Плян гэты прадбачыць перад усім значныя крэдыты на мэліарацыю. Таварыствы атрымаюць доўгатэрміновы крэдыт. Будуць заложаны так-званыя „пракатныя пункты“, якія будуць даваць Таварыствам у карыстаньне балотна-сенажатныя машыны. Будзе з'арганізавана патрэбная сетка пакавальных вучасткаў па культуры балот. Будуць арганізаваны вучэбныя падарожы сяброў Таварыстваў у прыкладовыя „дасьледчыя ўстановы“ па культуры балот, якіх Усходняя Беларусь мае 2: у Менску (слаўная Менская Балотная Станцыя) і ў Забалоцьці (дасьледчая балотная гаспадарка). Будзе павялічаны значна і культурна-тэхнічны пэрсанал—лічба работнікаў-спэцыялістаў. На культур-тэхнічныя прэдпрыемствы Наркомзем пакуль што асыгнаваў каля 150.000 рублёў.

Наркамзем у сваім пляне намеціў зрабіць асушку ўсіх балот у БСРР—за 15 гадоў. За першае пяцілецьце Народны Камісарыят Зямляробства мае зрабіць гэткія працы:

1. Урэгуляваць 60 вадапрыёмнікаў, агульнай даўжынёй 1.570 вёрст з плошчай балот у іх басэйне на 359.330 дзесяцін.

2. Правясьці 700 вёрст магістральных (галоўных-найшырэйшых) каналаў і адрэмантаваць 822 вёрст старых каналаў.

3. Будзе зроблена далейшая асушка 306.356 дзесяцін ужо падсушаных балот, з якіх будуць выдзелены 17.000 дзес. зусім выгаднай для гаспадаркі зямлі—у калянізацыйны фонд дзеля засяленьня.

На ўсю гэтую працу намечана выдаць з дзяржаўнага скарбу каля 15 мільёнаў рубл. і 11 мільён. з чверцяй — коштам заінтэрэсаванага насяленьня — з Таварыстваў. Але дзяржаўны банк дапаможа скаапэраванаму насяленьню зрабіць гэты расход, бо дасьць яму больш паловы сумы— аж 6 з паловай мільёнаў, як пазыку на доўгі тэрмін.

## Агнястойкае будаўніцтва на Менскай акрузе.

Ведама, якія страшэнныя спусташэньні робіць сярод нашых вясковых будынкаў „чырвоны певень“—агонь. Дык ня дзіва, што, падымаючы агульны дабрабыт сялянства, гаспадарская думка ў Усходняй Беларусі зьвярнулася да барацьбы з гэтым злом нашай вёскі. Аб гэтай працы ў Меншчыне паведамляе „Савецкая Беларусь“.

Агнястойкія майстроўні заложаны ў вёсках Навасёлкі і Арэшкавічы, Астрашыцка-Гарадоцкага раёну, і ў Ратамцы, Заслаўск. раёну (—пад Менскам). Гэтыя майстроўні выробляюць дахоўку, дымавыя трубы, цэмэнтавыя скрыні для студняў.

Пад Менскам у Пагулянцы мае быць закладзена паказальная майстроўня дзеля вырабу агнястойкага матэрыялу, пры якой маюць адчыніцца курсы на 30 вучняў — дзеля падрыхтоўкі патрэбных майстроў.

Пад Шацкам пачалі рабіць спробы будаваньня агнястойкіх хатаў з гліны, мешанай з рэзанай саломай,—новым спосабам. Новы спосаб палягае на тым, што з гэтай глінавай масы робяць цэглы, сушаць іх, а пасьля будуюць мураванкі. Гэткая цэгла мацнейшая за звычайную сушаную (ведама-ж —выпаленая ў агні—йшчэ мацнейшая, але—значна даражэйшая). Хаты з такой цэглы — вельмі моцныя і цёплыя і дух у іх вельмі прыемны, ня кажучы ўжо аб агнястойкасьці.

Выпрацоўваюць найбольш эканамічны спосаб і на выраб дахаў на гэткія хаты. На дахі ўжываюць не кулявую салому, як дагэтуль, але — плятуць з яе шчыльна маты, пасьля насычаюць гэтыя маты глінай, а зьверху мажуць мешанінай торфу з кароўім калам. Гэта мешаніна, засыхаючы, робіцца цьвёрдай, як цэмэнт, і не прапускае вады. На гэткі дах выходзе ў тры разы менш саломы. Маты з саломы плятуцца на асобных кроснах вельмі лёгка. Кросны кожын можа зрабіць сабе сам.

Варта было-б і нашым самавукам-„інжэнерам“ на вёсцы спробаваць арганізаваць гэткую будову.—Бо нам няма адкуль спадзявацца, каб аб нашых сялянах паклапаціўся нехта зьверху... У мяйсцовасьці, дзе ёсьць добрая гліна,—сяляне могуць ня толькі пабудаваць сабе танна добрыя агнястойкія „палацы“, але і мець вялікія заробкі— на вываз да суседніх мейсцаў.

## Цукер для сялянства БСРР.

Цукравы дзяржаўны трэст зложыў плян прадажы цукру на бягучы год—у колькасьці 57 мільёнаў пудоў. Сярэдняе спажываньне цукру на душу насяленьня дойдзе ўжо да 90 працэнтаў даваеннага (не хапае толькі дзесятай часткі).

Найбольшае павялічэньне спажываньня цукру ў сёлетнім годзе плян прадбача на вёсцы, бо аж на 55 працантаў (раўнуючы з леташнім годам), тады як на месты разьлічана павялічэньне толькі на 27 проц. Гэта-ж значыць, што багацее селянін, дый як хутка.

---

Паведамляем ўсіх паважаных пчаляроў, што наша рэдакцыя падчас „таннай прадажы кніжак у Бел. Кнігарні, прыдбала нейкі лік кніжкі „Пчолы“ (як гаспадарыць у рамовых вульлях)—Я. Пачопкі.—

Усе жадаючыя могуць выпісаць яе з рэдакцыі ў цане 1 зл. 25 гр. за экзэмпляр, прыслаўшы аднachасна 15 гр. на перасылку.

---



у будучыне, такжа дрэнна адбіваецца на іх і недаяданьне, яны яшчэ менш будуць малака даваць, вось дзеля гэтага канешне трэба з першых дзен жыцьця цяляці ўясьніць сабе, ці хваце нам корму дзеля выкормкі, як сьлед, цёлкі, дзеля якой мэты іх будзем карміць: ці для хову, ці на ўбой. На завод, дзеля хову, трэба пакідаць толькі патомства ад самых здаровых малочных штук. З тэй-жа прычыны, пакрываць (становіць) карову трэба канешне з здаровым быком, патомкам малочнай каровы, бо малочная здольнасьць бацькоў легка перадаецца патомству. Дзеля хову найлепш браць цёлак асеньняга ацёлу, яны заўсягды дужыя, рослыя і меней хварэюць, чым цёлкі вясеньняга ацёлу.

Пры ацёле кароў павінен быць хто колечы прысутны, а то дзеля помачы жывеле, ды ў трудных выпадках трэба канешне зваць вэтэрынара. Як толькі карова ацеліцца, яна зараз устае і паварочываецца да цяляці, каб аблізаць яго, у той час у цяляці абрываецца пупавіна-кішочка. Лепш гэта зрабіць самім—таму, хто даглядае за жывелай, а робіцца гэта так: чыстым вострым нажом абразаецца кішочка на тры пальцы (5 ст.) ад жывата цяляці і то ў той час, пакуль карова яшчэ ня ўстала, з астатка кішочкі-пупавіны пры жываце цяляці выціскаецца кроў—ды абмываюць яго слабым растворам карболкі, ці астуджаным варам. Бывае што маладыя каровы даволі часта не аблізываюць сваіх цялятак і тады канешне трэба іх выцерці да суха чыстымі анучамі, бо іначай цялё легка можа застудзіцца ды захварэць, а такжа першыя пяць-шесьць дзен усіх цялят трэба берагчы ад прастуды, бо яны яе не пераносяць. Хлеў, у якім трымаецца маладняк, павінен мець тэмпэратуру ня ніжэй 10°—12° па рэамюру, найлепшая-ж будзе 16°R. Маладняк павінен ставіцца заўсягды далей ад дзьвярэй і вакон, бо надта баіцца працягаў—сквазьнякоў. Падсьцілка павінна быць з чыстай сухой саломы і ня можна слаць кастры, мякіны ды сухога торфу, бо яны забіваюцца ў скуру, храпы, ды горла цялятам. Апрача таго целак трэба штодзенна чысьціць шчоткай і мяняць падсьцілку. Цяле павінна заўсягды быць чыстым і сухім. Калі-жа хлеў быў надта халодным, то найлепш цяле на першыя некалькі дзен ці ўнясьці—у цеплае памяшчэньне, ці зашыць у цеплае рызьзё, каб апрача галавы ды ног і хваста нічога ня было адкрытым, пакідаючы незакрытым такжа падхвосьце дзеля свабоднага выдзяленьня калу і мачы.

Ад усялякіх хвароб, як ведама, лягчэй аберагчы маладняк, чым яго лячыць, а шмат хвароб паходзе ад дрэннага дагляду і недастачы сьвету і сьвежага сухога паветра, вось дзеля гэтага ў хлеве павінна быць часта зьменіванае паветра і цяле павінна карыстацца з штодзенных прагонак як зімой, так і летам, па пару гадзін у дзень. Летам цялят трэба трымаць у загонах, зімой у хлеве свабодна бяз прывязі, бо інакш цялята слаба будуць расьці і разьвівацца, не набяруць мускулаў, астануцца з слаба разьвітымі грудзьмі і г. п.; калі-ж будуць яны ўзгадовывацца на свабодзе і будуць мець даволі руху, то органы дыханьня іх акрэпнуць, кровазварот будзе нармальны, пераварываньне корму такжа, наагул усе тыя органы, ад якіх залежыць здароўе жывелы і найвыгаднейшае зужыткаваньне корму, будуць разьвівацца нармальна.

Дзеля хову трэба браць целак здаровых, добра зложаных, рэзвых, жывой вагі якія маюць ня менш, як для нашых кароў, 24—32 кілогр. (60—80 фунтаў), аднак добра кормленныя каровы бывае даюць і болей здаровых ды цяжэйшых цялят. Што датычыцца кармленьня-паеньня цялят, дык першы час адзіным кормам для іх будзе толькі матчынае малако. Дзеля эканоміі і павышэньня ўдоеў малака ў ацяліўшыхся кароў выгадней і мажліва паіць цялят з рукі, а не даваць высысаць кароў, а дзеля таго і падаю агульна прынятыя спосабы выпайкі цялят. Памятаючы, што жалудак целак умяшчае ў сябе куды больш корму, чым можа пераварыць, ды апэтыт целак перавышае патрэбнасьць у ядзе, дзеля гэтага цялятам ніколі ня можна даваць малака ў волю, бо гэта заўсягды вызывае недамаганьне жалудка, бягунку ці запор. Малако дзеля выпайкі цялят павінна быць сьвежае і не халоднае так 20—24° R.; паіць жа трэба з чыстай пасуды, каторую зараз-жа вымываць гарачай вадой, апрача таго ня можна даваць цялятам ссаць брудныя пальцы, як гэта часта робяць няўдалыя гаспадыні. Паеньне цялят адбываецца тры разы ў дзень: рана, у поўдзень і вечарам. Дзён так з дзесяць цялят трэба канешне паіць малаком іхняй-жа маткі і толькі пазьней ўжо можна даваць малако іншых кароў. Першыя два тыдні цялят кормяць малаком, даючы ім ад 2 да 7 бутылак малака ў пару. (З пачатку даюць 2 бут. малака пасьля норму павышаюць так, каб на канцы другога тыдня выходзіла ўжо і 7 бутылак, бутылку лічу так у 3/4 кіло).

Нармальная колькасьць малака, патрэбнага цялятам, вылічаюць па жывой вазе цялят, з практыкі гэта выходзе, што целкам даюць малака больш менш 1/6—1/7 жывой вагі яе, напр. целка важа 42 кіл., дык малака ей даюць 7 1/2 кілогр. На трэці тыдзень даюць 10 бут. малака ў пару і даводзяць да 12 бут. ў канцы яго. З таго часу пачынаюць даваць ужо ім і сена. Пасьля трох тыдняў цяляці даюць ужо дзеесьць і зьнятае малако, а калі зьнятага малака няма, то на 4—5 тыдні малако замяняюць пойлам з цеплай вады з добра высеянай аўсянкай (аўсянай мукой) ці жмыхамі-макухамі, болей меней ад 1 да 2 кіло на цяле і даюць сена ў волю. На 4 месяцы пераходзяць з пойла на сухій корм т. е. аўсянка 2—2 1/2 кіло задаецца разам з вільготнай крыху прысоленай, саломенай рэзкай ці мякінай па крышцы, ды сена ў волю і так кормяць цяле да году. Трэба памятаць, што цялята ўзгадованыя на сухім корме, з 4 месяца будуць куды здаравейшыя ды расьлейшыя, чым узгадованыя на пойле. Ваду ў гэтым часе даюць асобна ў чыстай пасудзе і ў волю, а карыта, жалабы, ці вёдра павінны быць так прырыхтаваны, каб цяле туды ня лезла з нагамі, бо занячысьціць сабе ваду, ці корм і наеўшыся напіўшыся гэтага можа захварэць. На другі год мукі ўжо збаўляюць да 3/4 кіло ў пару, сена, калі дарагое, тож даюць менш,—так з 3 кіло, а затое сечкі даюць у волю. Наагул цялятам у 2 годзе даюць таго корму ў волю, якога яны ня могуць аб'есьціся. Найлепш нормы карму ўстанаўліваць і для перазімкаў паводлуг жывой вагі і спажыўчай вартасьці карму і ў гэтым выпадку я падаю сярэднія тых нормаў, якія мне давадзілася стасаваць у сваей практыцы, а дзеля таго, што вясковаму гаспадару трудна аблічаць іх, як сьлед і рэдка ён мае на гэта часу ды знаньня. Пакрываюць—становяць целак тады, як яны добра разаўюцца, больш-менш ад 1 г. 4 мес.—1 г. 8 месяцаў, надта ранняя злучка дае кароў слабых, позьняя-ж кароў мала-малочных. У практыцы выходзіць так, што, калі целку пакрываюць у 1 г. 4 мес., то яна носіць цяле 9 месяцаў—пры ацеле будзе мець каля 2 гадоў і 1 месяца.

Дзеля росту прыплоду цельнай карове трэба прыбавіць корму

# Юрыдычныя парады.

### Дэшкоўскаму Я.

*Запытаньне*: Мною куплена 10 дзесяцін зямлі ў 1923 г. у абшарніка. На запрадажнай ёсьць подпіс абшарніка, зацьверджаны гмінаю. Пляну няма. Зямлёю карыстаюся.

Ці мае права абшарнік выразаць зямлю ў другім мейсцы паласою, а ня, як цяпер ёсьць, клінам?

Ці маю права дахадзіць ад абшарніка — купчую і плян?

*Адказ*: Калі прадавец па Вашаму жаданьню ня зробіць для Вас купчае, дык можна прасіць Акружны Суд, каб прызнаў зямлю ў уласнасьць, але перш трэба атрымаць дазвол ад Зямельнага Ураду (Urząd Ziemski).

Зямлі перамяніць прадавец ня мае права.

### Дзіку Міхалу.

*Запытаньне*: 17 гадоў назад бацька мой і матка памёрлі. Скаціну, дабро і інвэнтар забралі дзядзькі. Мяне ўзяў адзін дзядзька, як апякун, вызначаны гмінаю, і абяцаў вярнуць мне ўсё, як вырасту. Цяпер мне 21 год, і на маё жаданьне нічога мне не дае.

Ці магу я ўсе гэта адсудзіць?

*Адказ*: Можна адсудзіць.

### Падпішчыку № 1230.

*Адказ*: Бяз суда паліцыя ня мае права нічога рабіць.

### Падпішчыку 1863.

*Запытаньне*: Па сьмерці майго мужа ў мяне засталася дачка. На гаспадарцы, з 12 дзесяцін зямлі, засталіся два ягоныя родныя браты. У 1899 г. я вышла замуж за другога, забраўшы з сабою дачку. Ці належыцца дачцы якая—колечы часьць яе бацькаўшчыны?

**Адказ**: Калі матка з дачкою ад 1899 г. ня жылі на гаспадарцы першага мужа і ніякае карысьці з тае зямлі ня мелі, то цяпер дачка ўжо ня мае права на бацькаўшчыну.

### Таму-ж.

Грошы сысквацъ ня варта, бо даражэй будзе каштаваць.

### Падпішчыку 915.

*Запытаньне*: У 1902 г. прыстаў я ў прымы да кабеціны, якая мела 2 сыноў і 2 дачкі. Сыны ў Расеі. Дачка адна вышла замуж, каторай я даў у пасаг карову і насеньня, а другая, пры выхадзе замуж, стала вымагаць ад мяне ў пасаг ёй каня, карову, увесь гаспадарскі пасаг і насеньня, на што я не згадзіўся. Тагды яна з сястрою падала ў суд і адсудзілі ад мяне ўжо зямлю 9 дзесяцін. Жонка жывая і ў нас ёсьць дзеці. Ці магу я жаліцца на гэты прысуд далей і ці магу што-небудзь вярнуць?

*Адказ*: Трэба падаць апэляцыю ў Акружны Суд.

### Падпішчыку 377.

1) *Запытаньне*: Ці маюць права на надзельную зямлю дзеці, цяпер прыехаўшыя з Амэрыкі, у якой пражылі 15 гадоў?

**Адказ**: Няма ведама, ці жывець бацька, а не, то калі памер і якія дзеці?

2) **Запытаньне**: Ці можа бацька адпісаць зямлю надзельную дачцы, якая замужам 10 гадоў. Бацька жыве на яе ўтрыманьні 5 гадоў. 3 сыноў адзін ў Амэрыцы, другі ў Расеі, а трэці цяпер прыехаў з Амэрыкі, але з бацькам ня жыве і яго не даглядае.

*Адказ*: Можа адпісаць, каму захоча.

### Падпішчыку 200.

Калі можаце даказаць, які быў у Вас расход, то можна судом даходзіць $^5/_6$ вартасьці матэрыялу і працы.

### Падпішчыку 1230.

Сёстры могуць дамагацца зямлі, бо гэта іх спадчына па брату, а не па бацьку. Паліцыя бяз суда ня мела права нічога рабіць.

### Дружалюбнаму.

Можа затрымаць і адаслаць да Сьледчага.

### К н ы ш у.

Да сьвяшчэньніка або да ксяндза.

# Паштовая скрынка.

**Мікалаю Верамейцы**. На закранутае Вамі пытаньне аб выпісываньні італьянскіх матак у сваім часе аткажам у асобнай стацьці.

**Тодару Кастэцкаму**. Кніжкі, аб каторыя Вы просіце, можна выпісаць з Менска праз Віленскую Беларускую Кнігарню—Завальная 7.

**Падпішчыку № 1720**. Справа з сэрвітутамі яшчэ ня скончана, мае быць выдана новая ўстава аб гэтым, а калі гэта будзе і ці з карысьцяй для сялян, няма ведама. Найчасьцей бывае, што справа даходзіць да згоды і ўласьнікі аддаюць сялянам $^1/_2$ усей зямлі, занятай сэрвітутам. Дагэтуль па закону павінна аддавацца сялянам $^1/_3$ часьць сэрвітуту дарма і то, калі гэта зямля пад абработку пашні не надаецца, як балота і г. п., то ў замен яе даецца роўная ей частка зямлі, надаючаяся пад пашню. Пры дабравольнай згодзе сялян з уласьнікам аб выкупе рэшты сэрвітуту трэба старацца, каб на сябе ня браць вынайманьня землямера, ды прыгатаўленьня пляна ў, бо з гэтым заўсягды бывае праваллока, лепш пакінуць крыху ўласьніку грошы на гэтыя расходы і заабавязаць яго зрабіць гэта на яго кошт і праз яго самога.

# Ад Адміністрацыі.

Даводзім да ведама ўсіх паважаных гр. Падпішчыкаў, якія просяць, каб на іх газэтах *„пісаць дакладныя адрасы“*, што гэта абавязаны рабіць паштовыя агенцыі, каторыя атрымліваюць ад рэдакцыі „карты прэнумараты“ г. з. сьпіскі падпішчыкаў і іх дакладныя адрасы, паводле якіх павінны раздаваць газэты атказуючы за акуратнасьць рассылкі.—Кожны, хто не атрымлівае газэты, павінен зьвярнуцца на сваю пошту і вымагаць, каб яму паказалі „карту прэнумэраты“.

Хто з падпішчыкаў газэты зусім не атрымоўвае, і на сваей пошце прычыны выясьніць ня зможа, няхай зьвяртаецца ў адміністрацыю. Коратка і ясна выложыўшы справу, на канвэрце трэба рабіць надпіс „Reklamacja“ —і гэтакі ліст слаць бяз маркі.

# Усячына.

### Тэлеграфныя банкавыя чэкі.

З тае прычыны, што перадача грошы звычайнымі чэкамі праз пошту адбірае шмат часу, пакуль банк, атрымаўшы чэк, праверыць яго годнасьць і г. д.—вялікія амэрыканскія банкі пастанавілі пасылаць чэкі тэлеграфам, а іменна шляхам фатаграфіі на адлегласьць. Спробы паказалі, што фатаграфаваньне чэкаў так дасканала перадае подпісы старон, што банкі могуць сьцвердзіць аўтэнтычнасьць гэтых подпісаў.

### Рухомыя тротуары ў Парыжы.

Гарадзкая рада ў Парыжы абвясьціла конкурс на рухомы тротуар („trottoir roulant“), які дапамагаў-бы пешаму руху на вуліцах Парыжу. Гэткія тротуары ўжываліся ў Парыжы ў 1900 г. у часе сусьветнай выстаўкі. Цяпер ужо пабудованы некалькі гэткіх тротуараў для спробы і вопыты з імі далі добрыя рэзультаты.



ад $1^1/_2$ кіло сена ў пару, даводзячы пад канец да 3 кіло; апрача заўсягды задаванага корму, да гэтага трэба сьцерагчыся і ня біць цельных кароў, каб ня вызваць выкідыша, ня можна карміць іх такжа мерзлым, ды гнілым кормам, цельную карову канешне трэба штодзенна (зімой) выпускаць з хлеву, каб прайшлася і расправіла, як людзі кажуць, косьці. Перад самым ацелам карову трэба аддзяліць ад рэшты жывелы і паставіць у загарадцы асобна ды даць чыстую сухую подсьцілку.

*С. Журык.*

## Як карміць кароу.

Сяляне часта кажуць, што яны бяз усякай навукі ўмелі-б карміць кароў, калі-б мелі шмат корму. Але гэты погляд ня зусім правільны, бо карову можна перакарміць і гэта таксама дрэнна.

Мне ў гэтым годзе давялося гэта чуць і ад самых сялян. Напр., у вёсцы Малыя Шарыпы, Горацкага раёну, вельмі стары гаспадар Хосман казаў сялянам і мне, што ён добрую карову перакарміў. Карова зрабілася жырнаю, але перастала даваць малако.

Вельмі часта бывае, што каровам даюць багата грубага корму (сена, саломы, мякіны і інш.) і яны ня могуць ператравіць усяго. Ад гэтага перапаўненьня жывата каровы толькі зьмяншаюць удоі.

Недакармліваць карову таксама дрэнна: яна будзе мала даваць малака. Пры голадзе карова перш-на-перш бярэ харчы на падтрыманьне свайго жыцьця і толькі пасьля гэтага лішкі корму перарабляе ў малако. Калі гэтыя лішкі бываюць малыя, то карова дасьць мала і малака, што не карысна гаспадару.

Прымаючы пад увагу гэта, мы разьбярэм, як трэба карміць кароў.

Усякая жывёла павінна атрымоўваць корм дзеля таго, каб жыць. На падтрыманьне жыцьця трэба на 3 пуд. жывой вагі 1 фунт кармовых адзінак.

За кармовую адзінку лічаць 1 фунт сярэдняга аўса; з ім і раўнуюць усякі іншы корм.

Вызначыць вагу каровы можна абмерам яе даўжыні ад пачатку хіба да хваста і таўшчыні за лапаткамі ў вяршкох. Гэтыя дзьве лічбы трэба перамножыць і падзяліць на 40; тады будзем мець жывую вагу каровы ў пудох. Напрыклад, даўжыня нашай каровы ад пачатку хіба да хваста 24 вяршкі, а таўшчыня за лапаткі 30 вярш. Перамножыўшы 30 на 24, будзем мець 720; знача 720 фун. Падзяліўшы гэту лічбу на 40, будзе мець 18 пуд. жывое вагі наша карова. Гэты спосаб для маладое жывёлы не падходзіць.

Далей, карове патрэбна даць корм на малако (прадукцыйны корм). Рахунак вядзецца так: на 3 фун. малака патрэбна адна кармовая адзінка.

Апрача гэтага, у апошнія пяць месяцаў перад цяленьнем карове патрэбна прыбаўляць адну кармовую адзінку на ўзрост цяляці.

Здараецца, што карова ўсё прыбаўляе малако. Тады ёй трэба прыбаўляць і корм, пакуль удой ня стане на аднэй меры.

Худым каровам, асабліва перад цяленьнем, трэба таксама падбаўляць корм на папраўку самой каровы.

На адну кармовую адзінку трэба ўзяць паасобку:



| | | |
|---|---|---|
| сена канюшыны . . . | 2 | фун. |
| „ лугавога (добрага) . . | $2^1/_2$ | „ |
| „ балотнага . . . | 3,4 | „ |
| мякіны . . . . | $3^1/_2$ | „ |
| саломы яравой . . . | $3^1/_2$ | „ |
| „ азімай . . . . | $5^1/_2$ | „ |
| бульбы . . . . | $3^1/_2$ | „ |
| буракоў . . . . | $9^1/_2$ | „ |
| брагі бульбянай . . . | 25 | „ |
| канюшыны зялёнай . . | 6 | „ |
| выкі з аўсом (зялёнай) . . | 8 | „ |
| травы . . . . | 6 | „ |
| аўса . . . . | 1 | „ |
| высевак . . . . | 1 | „ |
| макухі льнянай . . . | $^3/_4$ | „ |

Цяпер папрабуем зложыць норму карове, **якая важыць 18 пуд., дае 15 фун. малака і цельная.** На падтрыманьне жыцьця ёй патрэбна 6 кармовых адзінак, на малако 5 і на цяля 1; усяго 12 фун. кармовых адзінак. Такой карове, каб яна ня худзела і ня жырэла, патрэбна на гэтыя 12 фун. кармовых адзінак набраць корму.

Харчы бяруць такія, якія ёсьць у гаспадарцы ці якіх можна ня дорага прыкупіць. Пры наборы корму абавязкова патрэбна, каб яны складаліся з саломістых кормаў (сена, салома), з вадзяністых (бульба, буракі) і спажыўных (зярно, макуха і інш.). Саломістых кормаў трэба ўзяць прыблізна на дзень карове столькі фунтаў, колькі пудоў яна важыць. Рэшта кармовых адзінак набіраецца з вадзяністых і спажыўнага корму.

Нашай карове на дзень (пасялянску) можна даць:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| сена сенажаці . . | 5 | фун. | 2 | карм. адзінкі |
| саломы яравой . . | 7 | „ | 2 | „ „ |
| мякіны . . . | 7 | „ | 2 | „ „ |
| бульбы . . . | $10^1/_2$ | „ | 3 | „ „ |
| макухі . . . | $2^1/_2$ | „ | 3 | „ „ |
| Усяго . . . . | | | 12 | карм. адзінак. |

Пры скаданьні нормаў мы павінны заўсёды мець на ўвазе кошт у грашох адной кармовай адзінкі і падбіраць больш танны корм. Але, выбіраючы і танны корм, мы павінны ведаць, што карова ня можа абысьціся бяз корняплодаў і спажыўнага корму. Бяз дачы гэтага корму гаспадар ня зможа мець ад каровы добрага ўдою, хаця-бы ён і даваў ёй патрэбны лік кармовых адзінак у саломістым корме.

(Паводлуг часопісі „Плуг“ № 12) 1925 г. Менск.

*Гаспадыні з пад Быхава З. С.*

## Некалькі слоу аб узгадаваньні курэй, гусей і усялякай драбязы.

Не даюць нам мужыкі, як сьлед, прыступіць да нашага бабскага птушынага гаспадарства, ды самі дзеля гэтага церпяць, а з імі і мы гаспадыні—іх жонкі. Маю на думцы ўзгадаваньне ўсялякай драбязы: як гусі, качкі, куры, кролікі (трусы), ды галубы. Вочы ім коле, калі

13

Пры ўжываньні фабр. вузы разьвіцьцё маладых раёў ідзе вельмі хутка; апроч таго дастатак сьвежай вашчыны дае магчымасьць кожны год мяняць 1/3 часьць гнязда, дзеля чаго ўся цёмная вашчына вырэзваецца і маладое пакаленьне пчол не памяншаецца - (не драбнее).

Дзеля ўсяго вышэй пералічанага, ужываньне фабрычнай вузы вельмі пашыраецца, а выраб і прадажа яе зрабіліся гандлем, у катораым ідзе найбольш аб матэрыяльную карысьць, дзеля чаго часта спатыкаюцца вырабы фальшаваныя.

Часта да воску пчалінага пры вырабе вузы падмешываюць нейкую часьць воску зямнога, як прадукту шмат таньнейшага. Хаця невялікай прымешкі гэтага воску пазнаць немагчыма, пчолы аднак яе пазнаюць адразу і дарабляць такой вузы ня хочуць, а калі пасьля даўжэйшага часу і прыймуць, то карысьць з яе будзе невялікая, бо такая вуза лішне мягкая, хвалдуецца, чарачкі расцягіваюцца і робяцца лішне вялікімі. Дзеля таго вузу трэба купляць у добра знаных, паважных фірмах, або найлепш даваць для пераробкі свой уласны, чысты воск.

Воск для пераробкі прыймаюць, паміж іншымі: „Пасічнича Спілка“ (Украінская Пчалярская Супалка ў Львові), Пчаляр К. Шалькевіч—у Кальварыі пад Вільнай і „Пчалярскае Т-ва“ (пры „Kółkach Rolniczych“) у Вільні.

Усюды за пераробку бяруць 1/3 часьць прысланага воску.

Робяць на разьмер рамкі Дадан-Блята, або Левіцкага — па жаданьню заказчыка. На 1 кг. вузы да рамак Дадана ідзе 18—20 плястраў, а да рамак Левіцкага 24—25.

У прадажы 1 кг. фабр. вузы каштуе—9 зл.

Воск для пераробкі павінен быць непрыпалены, бяз ніякіх прымешак, зусім чысты. Каб воск аканчальна ачысьціць добра рабіць так:ператоплены і застыўшы паламаць ізноў на кускі, укінуць у саган, наліўшы на дно крыху вады, растапіць, а тады, даўшы яму з гадзіну часу пастаяць, зьняць зьверху ўсенькі бруд дачыста і разліваць асьцярожна апалонікам у невялікія пасудзіны.

Каб воск ня прыстаў да пасудзіны, трэба яе змачыць салёнай вадой.

---

Шчыра радзім усім нашым паважаным пчалярам сабраць, які толькі ёсьць воск, ачысьціць і пасьпяшыць перарабіць на фабрычную вузу.

Тое, што сягодня страціце на перасылку воску, вернецца Вам у многа разоў мёдам і збольшанай сілай Вашых раёў.

*З. В.*

## Лякарскія зёлкі.

Ад найстарэйшых часоў дахопзяць да нас весткі, як знахары дый наагул старыя людзі, асабліва кабеты, займаліся зьбіраньнем памоцных зёлак і лячылі імі хворых. У пазьнейшую пару навука забараняла верыць у лячэньне знахараў, але ж тая самая навука пераканалася ў памоцнасьці многіх зёлак, і з іх аптэкі прыгатаўлялі розныя лекі.

А скуль-жа-ж аптэкі бралі зёлкі?—

На торгах мала куплялі, бо вясковыя бабы прыносілі найчасьцей па крышцы, ды дрэнна, нячыста сабраных. Найбольшы лік патрэбных зёлак давала заграніца, дзе яны гадуюцца на сумысных плянтацыях, а ў той жа час тыя-ж самыя зёлкі ў вялікай колькасьці расьлі і ў нас, і зьяўляліся нявыкарыстаным багацьцем краю.

14

Сяньня абставіны крыху зьмяніліся. У Польшчы сотні людзей займаюцца зьбіраньнем лякарскіх зёлак, а ў зямлі Любэльскай вясковыя жанчыны пераканаліся, што гэтая праца больш карысная, чым заробкі ў полі і гародах.

Істнуючае ў Варшаве Таварыства „Зёла Польске“ скупляе зёлкі вагонавымі партыямі, а Львоўскае Украінскае Т-ва „Таваромін“ мае сталых закашчыкаў заграніцай.

Толькі ў нас, у Заходняй Беларусі, рацыянальны збор лякарскіх зёлак не распачаты, а істнуе толькі ў руках вясковых жанок, як занятак „паміж іншым“, ды займаюцца ім спрытнейшыя правінцыяльныя аптэкары, скупляючы ў сьвежым стане некаторыя даражэйшыя зёлкі, як напрыклад: кару крушыны, краскі канвалеі, чарніцы, маліны і парашок дзеразы.

А гэтак быць не павінна.

Заклікаем асабліва нашу безработную вясковую інтэлігенцыю разглядзець уважна гэтую справу і пастарацца, выкарыстаўшы натуральныя багацьці нашай старонкі, паправіць сваю цяжкую долю.

Па нашых палёх і лясох, па берагох рэчак і крыніцаў, навет на пясках і балотах шмат расьце зёлак лякарскіх, ці, як у нас кажуць, памоцных; і ўсё яны, старанна сабраныя ў вядомую пару, добра і прыгожа высушаныя і спэцыяльна прыгатаваныя да прадажы, г. зн. ачышчаныя ад камлёў і непатрэбных часьцей, — наканец, роўна і дробна пакрышаныя, заўсёды знойдуць купца, каторы ўсю работу аплоціць.

Аплатнасьць працы тады будзе зусім пэўнаю, калі ўзяцца за яе ўмела, старанна і калі зьбіраць аддзельныя зёлкі ў большым ліку. Прыступаючы да збору ў даволі шырокім разьмеры, найляпей загадзя прыдбаць сабе пакупшчыка, ды згаварыцца з ім, якіх зёлак і колькі яму даставіць.

Праца гэтая, хаця ў сваім зачатку і дробная, усё ж такі карысная і зможа падняць дабрабыт нашых безработных.

Столькі аб матар'яльным боку збору зёлак.

Трэба заўважыць, што, апроч карысьці матар'яльнай, збор лякарскіх зёлак мае і маральнае значэньне.

Самы працэс зьбіраньня вымагае пэўнага паважнейшага напрамку думак, дае тэму да супольнай гутаркі, заахвочвае да працы дзеля падняцьця дабрабыту, а найважнейшае—прыбліжае чалавека да прыроды, знаёміць з яе цудамі і праз гэта ўплывае на этычнае і эстэтычнае разьвіцьцё чалавечай душы.

Дзеля вышэйсказанага зьбіраньне лякарскіх зёлак зьяўляецца вельмі адпаведным і карысным заняткам для вясковых школаў ды працоўных і летніх дзіцячых калёніяў, а таксама і прытулкаў.

Вясковыя вучыцялі павінны старацца абзнаёміцца з памоцнымі зёлкамі і працэсам іх збору і сушэньня; павінны рабіць з дзяцьмі экскурсіі да лесу, на поле і балота, зьбіраць з імі гэтыя зёлкі і акуратна рыхтаваць дзеля прадажы.

Гэтакім чынам дзеці могуць сабе зарабіць на патрэбныя школьныя прылады, а ў душах дзіцячых зародзіцца пашана да тых твораў Божых, што, хоць гаварыць і рухацца ня могуць, а столькі карысьці людзям прыносяць, пашана, каторая не пазволіць ім бязмысна таптаць і рваць кветкі, ды ламаць галіны як садовых, так і дзікіх прыдарожных дрэваў.

---

Далей дамо агульныя ўвагі аб зборы і прыгатаўленьні зёлак дзеля прадажы, а таксама апісаньне важнейшых ды найболей аплатных зёлак, якія ў большым ліку ў нас выступаюць.

15

*Я. К.*

## Як закладаць каапэратыу (—спажывецкае т-ва).

Вельмі часта прыходзяць да нас запытаньні ад чытачоў нашай часопісі, як закладаць спажывецкія т-вы, іначай, —каапэратывы. У кароценькім нарысе пастараюся адказаць зараз на ўсе пытаньні, ды, апрача таго, напомніць усім, што каапэратыў будзе разьвівацца тады добра, калі за арганізацыю яго возьмуцца людзі з чыстым прошлым, г. зн. не замешаныя ў ніякія крымінальныя гісторыі, як растраты, кражы і г. п.; калі каапэратыў будзе сільным, г. зн. калі сяброў членаў яго ў пачатку арганізацыі набярэцца ня меней 40—50 асоб, ды і пасьля будзе надзея, што не перастануць запісывацца, а лік іх дойдзе да 100 асоб. Каапэратыў-жа з малым лікам сяброў будзе слабым дый хутка загіне, не пасьпеўшы нічога карыснага дзеля сяброў сваіх зрабіць.

На закладзіны крамы і закуп тавару, а такжа каб дастаць невялічкі крэдыт, трэба мець каля пары тысяч злотых, як на цяперашні час. Дзеля таго адзін пай павінен быць ня меней як 20—30 злотых, ды апрача таго кожны сябра павінен заплаціць упісовыя грошы на расходы па арганізацыі такога 2-3 злотых.

У выпадках, калі-б блізка былі крамы такога-ж роду прыватных гандляроў, трэба спадзявацца, што тыя павядуць сільную агітацыю проці ўступленьня ў сябры каапэратыву і складаньня паёў. Да гэтага трэ' быць гатовым, каб даць належны адпор.

Дзеля-ж самага залажэньня каапэратыву (—спажывецкага т-ва) патрэбна:

1. Зрабіць арганізацыйнае сабраньне закладчыкаў, якія ўкладаюць (—сьпісываюць) пратакол аб залажэньні ў данай мяйсцовасьці каапэратыву, прыймаюць Статут (узор якога можна выпісаць з Związku Kooperatyw, Wilno, Mała Pahulanka 12) і выбіраюць спасярод сябе Управу (Zarząd) і Раду (Rada Nadzorcza).

2. У пратаколе трэба абазначыць раён (вёску, сяло, мястэчка, гміну і г. п.) дзеяльнасьці каапэратыву, велічыню паёў і ўпісовых, ды лічбу сяброў Управы і Рады.

3. Статут падпісываюць ня менш, як 10 асоб закладчыкаў; і з яго зьнімаюцца 2 копіі і згоднасьць (za zgodność) з арыгіналам самага статуту і подпісаў закладчыкаў сьведчыць выбраная Управа (пасьведчаньні гэтых копіяў праз каго-колечы другога, напр. войта, судзьдзю, натарыюса не патрэбна).

4. Управа пасылае ў Акружны Суд: копію з пратаколу аб залажэньні каапэратыву, пасьведчаную так-жа Управай, Статут-арыгінал і 2 копіі з яго; апрача таго, Управа падае ў гэты суд заяву (zgłoszenie) з просьбаю аб зарэгістраваньні статуту і сяброў Управы. Уласнаручныя подпісы сяброў Управы на заяве (zgłoszeniu) трэба абавязкова пасьведчыць у гміне чы ў натарыюса, можна пасьведчыць і ў міравога судзьдзі; на заяве трэба наклеіць гэрбовых марок на 1 злоты.

5. Правільна зложаны пратакол, статут і заяву суд зацьвердзіць праз тыдзень-два.

6. Пераслаўшы статут і заяву ў суд, можна выкупіць прамысловае сьвядэцтва (swiadectwo przemysłowe) ў Казначэйстве (Urzędzie Skarbowym) і прыступіць да працы.

16

7. Копію зацьверджанага статуту суд прышле ў каапэратыў.

8. Рэгістрацыя каапэратыву ў судзе пакуль-што каштуе да 50 злотых.

9. Як далей рабіць і як пачынаць працу ў каапэратыве, можна даведацца ад інстуктароў каапэрацыі (lustratorów) у Вільні, Малая Пагулянка 12, Związek Kooperatyw.

**Узор заявы ў Суд:**

Do Sądu Okręgowego jako Rejestrowego w (Wilnie, Nowogródku, Grodnie і г. д. залежна да якога округу належыць мяйсцовасьць).

Zarządu Spółdzielni Spożywców (назова каапэратывы „Сіла“, „Пагоня“, „Васілёк“ чы інначэй) w (назова мяйсцовасьці).

ZGŁOSZENIE.

Załączając przy niniejszem: Statut naszej Spółdzielni wraz z dwoma odpisami tegoż Statutu oraz odpis protokołu zebrania organizacyjnego w sprawie założenia Spółdzielni i powołania Władz tej że, prosimy Sąd o zarejestrowanie Statutu i członków Zarządu którży wszystkie zoobowiązanią podpisywać będą.

(Подпісы 3-х сяброў і 1 кандыдата).

Własnoręczne podpisy członków Zarządu Spółdzielni (назова яе) w (назова мяйсцовасьці) (прозьвішча і імя) we wsi..................
(зноў прозьвішча і імя другога) ze wsi.................. (ізноў тое самае рэшты сяброў) Urząd gminy (такоі-та) stwierdza

Adres spółdzielni..................



Рэдактар-Выдавец: Ян Марцінеўскі.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.